❑ *Пенсіянеры атрымалі права на бясплатны праезд у прыгарадным транспарце ў маі і верасні.* 1-я стар.

❑ *На Беларусі ўведзены новыя тарыфы на паслугі пасажырскіх аўтамабільных перавозак прыгарадным транспартам.* 1-я стар.

❑ *Якія будуць новыя цэны на квартплату?* 3-я стар.

❑ *Прагноз астролага: што чакае Беларусь у будучыні?* 3-я стар.

ЗВЯЗДА

3 мая 1996 г.
пятніца, № 111 (22914)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

# РОЗГАЛАС

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 155*

**Аб бясплатным праездзе грамадзян, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту, на прыгарадным транспарце**

У мэтах рэалізацыі канстытуцыйнага права грамадзян на сацыяльнае забеспячэнне ў старасці **пастанаўляю:**

1. Прадаставіць грамадзянам, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту (мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў), на перыяд з 1 па 31 мая і з 1 па 30 верасня 1996 г. права бясплатнага праезду на аўтамабільным (акрамя таксі) і чыгуначным пасажырскім транспарце прыгарадных зносінаў.

2. Міністэрству транспарту і камунікацый давесці да ведама насельніцтва парадак прадастаўлення льготы, прадугледжанай пунктам 1 гэтага ўказа, і забяспечыць захаванне гэтага парадку.

3. Гэты ўказ уступае ў сілу з 1 мая 1996 г.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*30 красавіка 1996 г., г. Мінск.*

## КАМЕНТАРЫЙ ДА УКАЗА ПРЭЗІДЭНТА АБ БЯСПЛАТНЫМ ПРАЕЗДЗЕ ПЕНСІЯНЕРАЎ

**Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Аляксандр Лукашэнка, падпісваючы Указ аб бясплатным праездзе ветэранаў у прыгарадным транспарце, падкрэсліў, што ў сваёй дзейнасці як кіраўніка дзяржавы не мае намеру адступаць ні ад аднаго пункта сваёй перадвыбарнай праграмы.**

Усё, што было абяцана, будзе выканана, і асабліва тыя пункты праграмы, якія датычаць ветэранаў, моладзі, сферы вытворчасці, вёскі, навукі, культуры і адукацыі. Чалавек працы ў Беларусі павінен жыць дастойна, свабодна і адчуваць сябе ў бяспецы, заявіў Прэзідэнт.

**БЕЛТА.**

## УКЛАДЧЫКАМ ВАЛЮТЫ НІХТО І НІШТО НЕ ПАГРАЖАЕ

**Як ужо паведамлялася, Нацбанк забараніў выдачу валютных крэдытаў суб'ектам гаспадарання. Цяпер для аплаты кантрактаў у замежнай валюце спачатку неабходна ўзяць крэдыт у нацыянальнай валюце і канверсаваць яе праз біржу.**

Гэтае рашэнне праўлення Нацбанка выклікала нечаканы рэзананс сярод насельніцтва рэспублікі, а менавіта сярод тых людзей, якія трымаюць валютныя ўклады ў камерцыйных банках. Шмат хто з уладальнікаў валюты, не разабраўшыся ў сутнасці справы, кінуўся здымаць свае ўклады, закрываць валютныя рахункі.

Відавочна, тут спрацаваў прынцып сапсаванага тэлефона. Тэлеграма Нацбанка аб забароне выдачы валютных крэдытаў суб'ектам гаспадарання не мае ніякага дачынення да валютных рахункаў грамадзян. Мэта такога кроку Нацбанка — пазбавіць банкі і іх асобных кліентаў магчымасці атрымання інвалютных крэдытаў; ліквідаваць праблему розніцы працэнтных ставак па крэдытах рублёвых і ў інвалюце; павысіць прыток валюты на біржу, што дасць магчымасць больш эфектыўна ажыццяўляць кантроль за абгрунтаванасцю яе куплі.

Як бачым, ніякага «замаху» на валютныя ўклады грамадзян Нацбанк не планаваў і не плануе. Чуткі аб «замарожванні» валютных рахункаў абсалютна беспадстаўныя. Больш таго, палітыка Нацыянальнага і камерцыйных банкаў якраз і скіравана на як мага большае прыцягненне ва ўклады валютных сродкаў нашых грамадзян.

А прынятае 28 лістапада мінулага года «Палажэнне аб гарантыйным фондзе абароны ўкладаў і дэпазітаў фізічных асоб» у аднолькавай ступені гарантуе грамадзянам кампенсацыю магчымых страт, незалежна ад віду валюты, якая размешчана ва ўкладзе. У сувязі з гэтым Нацыянальны банк заяўляе, што ўсе хваляванні грамадзян за лёс сваіх укладаў у валюце — неабгрунтаваныя, ім ніхто і нішто не пагражае.

**Прэс-служба Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.**

*МЕРКАВАННЕ*

## КОШТ ПРАЕЗДУ: ЗА СЯБЕ І ЗА ТАГО ПЕНСІЯНЕРА?

**З 1 мая ў Беларусі ўведзены ў дзеянне новыя тарыфы на паслугі пасажырскіх аўтамабільных перавозак прыгараднага прызначэння. Так, з пазначанай даты кошт аднаго кіламетра праезду будзе складаць: у машынах агульнага тыпу — 170 рублёў, у мяккіх — 190 рублёў (раней было адпаведна 150 і 170 рублёў).**

Павышэнне кошту прыгарадных перавозак, як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкома, звязана з прадастаўленнем з 1 мая права бясплатнага праезду ветэранам (жанчынам ва ўзросце 55 гадоў, мужчынам — 60 гадоў) на час дачнага сезона тэрмінам у адзін месяц. Дарэчы, аналагічная сітуацыя з коштам праезду ў прыгарадным транспарце будзе паўторана і ў верасні.

Што тычыцца пакрыцця выдаткаў транспартнікаў, то яны на прыгарадных напрамках да ўзняцця тарыфаў складалі 40 працэнтаў. У сувязі з тым, што адначасова з павышэннем кошту перавозак даволі значнай частцы грамадзян прадастаўляецца права бясплатнага праезду, як мяркуюць спецыялісты, хутчэй за ўсё павышэння працэнта пакрыцця выдаткаў за кошт «наваўвядзення» не адбудзецца. Зусім спрошчана ўсё выглядае так: пры набыцці білета ў маі і верасні пасажыр будзе плаціць за сябе і за пенсіянера. Што тычыцца апошняй катэгорыі грамадзян, такое рашэнне, безумоўна, з'яўляецца для іх адчувальнай падтрымкай падчас дачнага сезона.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*ПАВАЖАНЫЯ ГРАМАДЗЯНЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ! ДАРАГІЯ СУАЙЧЫННІКІ!*

Сёння мы адзначаем вялікую, сапраўды знамянальную дату — міжнародны дзень 1 Мая. Гэта сапраўднае свята вясны і працы, якое атрымала ў нашай краіне статус дзяржаўнага, нягледзячы на ўсе бурныя перамены апошняга часу, па-ранейшаму сімвалізуе дружбу і брацтва людзей-стваральнікаў, незалежна ад таго, дзе яны жывуць і працуюць, у горадзе або вёсцы.

Працэс фарміравання новых працоўных адносінаў не ідзе гладка. Мноства фактараў уплывае на іх станаўленне і ўмацаванне. Асабліва небяспечна, калі сюды ўмешваюцца злосныя палітыкі, якія праследуюць свае эгаістычныя, вузкакарыслівыя інтарэсы. Да чаго гэта прыводзіць, паказала ярка выражаная правакацыйная акцыя, арганізаваная Беларускім народным фронтам і яго прыхільнікамі ў сумную гадавіну аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Вось чаму нястомнай патрэбнасцю дня з'яўляецца мацнеючае адзінства і салідарнасць людзей працы, рукамі, розумам і спрытам якіх заўсёды ствараўся і ствараецца матэрыяльны дабрабыт грамадства.

А гэта значыць, што нам нельга мірыцца з пагардлівымі адносінамі да правоў, патрэб і прапаноў тых, хто працуе ля заводскага станка, вырошчвае ў полі збожжа, вучыць дзяцей, развівае навуку і культуру, ахоўвае здароўе насельніцтва, стаіць на варце грамадскага парадку. Дзяржава па меры магчымасці будзе праяўляць аб сваіх грамадзянах-працаўніках належныя клопаты.

Для ўсіх нас сёння самая галоўная задача заключаецца ў тым, каб забяспечыць пералом у развіцці эканомікі. Прыемна, што тут ужо наметіліся пэўныя зрухі. Нельга дапусціць, каб распальваемая безадказнымі авантурыстамі канфрантацыя загубіла першыя парасткі агульнай стабілізацыі, падарвала асновы нашай свабоднай, дэмакратычнай будовы жыцця. Гэта павінны разумець усе, і асабліва моладзь, як найбольш дынамічная і сацыяльна актыўная частка грамадства.

Выказваю цвёрдую ўпэўненасць у тым, што рэспубліцы-працаўніцы, рэспубліцы-партызанцы пад сілу вырашэнне складаных эканамічных і духоўна-маральных праблем. Гэтаму ў значнай ступені будзе садзейнічаць нарастаючае інтэграцыйнае супрацоўніцтва з Расіяй, іншымі дружалюбнымі краінамі.

З першамайскім святам вас, дарагія суайчыннікі!

Няхай мір, праца і згода пануюць у нашым агульным беларускім доме!

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

## ЗАМЕЖНЫЯ ЦЫГАРЭТЫ Ў ДЭФІЦЫЦЕ

**Непрыемна з учарашняга дня былі здзіўлены ўсе аматары цыгарэт замежнай вытворчасці: камерцыйныя кіёскі, у якіх увесь час меў багаты выбар гэтай прадукцыі, раптам «забаставалі» — разнастайныя ўпакоўкі з тытунёвай «атрутай» адтуль зніклі.**

Тлумачаць камерсанты свой крок наступным: выйшла распараджэнне, якое дыктуе прадаваць цыгарэты з акцызнай маркай, якая павінна знаходзіцца на пачку пад плёнкай (як памятаем, раней марка знаходзілася зверху, на плёнцы). Затое не разгубіліся, як заўсёды, старыя, якія гандлююць цыгарэтамі, — там цана паднялася адразу на 1500—2000 рублёў. Матывацыя ў дадзеным выпадку, як заўсёды, простая — дэфіцыт і будучае падаражанне.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## ПЕРШАМАЙ У СТАЛІЦЫ: З РОЗНЫМІ СЦЯГАМІ, АЛЕ БЕЗ СУР'ЁЗНЫХ ЭКСЦЭСАЎ

**Напружаная атмасфера перад 1 Мая ў Мінску, выкліканая драматычнымі падзеямі 26 красавіка, была разраджана веснавым дожджыкам, які спужаў большую частку патэнцыяльных дэманстрантаў. Мітынгуючых у гэты дзень было нечакана мала: як з чырвонымі, так і з бела-чырвона-белымі сцягамі. Затое прадстаўнікоў службы аховы парадку было па-ранейшаму шмат, і яны суправаджалі і нават «узначальвалі» святочныя калоны з рознымі сцягамі.**





На плошчы Незалежнасці, дзе сабраліся дзве групы, арганізаваныя прафсаюзамі, камуністамі і сацыял-дэмакратамі, сілы аховы правапарадку падзялялі гэтыя групы некалькімі ўзмоцненымі кардонамі. З правага боку стаялі пенсіянеры і рабочыя з чырвонымі сцягамі, іх было больш, але яны маўчалі; злева размахвала бела-чырвона-белымі сцягамі і скандзіравала лозунгі моладзь, сабраная БСДГ. Беларускі народны фронт у гэтым шэсці і мітынгу ўдзелу не браў, баючыся сутыкненняў розных калон лоб у лоб. Многія назіральнікі таксама пабойваліся, што калоны пад рознымі сцягамі могуць сысціся ў бойцы, тым больш што моладзь паводзіла сябе надзвычай актыўна. На шчасце, гэтага не адбылося.

Да гонару арганізатараў мітынгу было тое, што яны далі магчымасць выступіць і апазіцыйным палітыкам: Сяргею Антончыку, на сёння беспрацоўнаму, і Міколу Статкевічу, аднак пры прыняцці рэзалюцыі мітынгу арганізатары, спытаўшы, хто «за», чамусьці забылі папытаць, хто «супраць» і ўстрымаўся...

На мітынгу лідэр Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Ганчарык быў даволі крытычны ў адносінах да ўрада, ён зазначыў, што прыйшла пара адстойваць права на працу, эканамічная сітуацыя пагаршаецца, прадпрыемствы ў даўгах, набліжаецца пагроза масавых звальненняў, а новыя рабочыя месцы не ствараюцца. Работніца ВА «Белвар» з сумам канстатавала, што цана на іх прадукцыю вырасла да ўзроўню сусветнай, таму прадукцыя не мае збыту. У якасці магчымага выйсця яна прапанавала абмежаваць доступ на наш рынак імпартнай прадукцыі. Нейкі самадзейны паэт падтрымаў яе і прачытаў востры вершаваны памфлет супраць «снікерсаў», чарапашак Ніндзя, замежных фільмаў і тавараў... Рабочы МАЗа выказваў сваё здзіўленне, чаму мы працуем, як раней, а жывём усё горш і горш.

Лідэр БСДГ М. Статкевіч выказаў салідарнасць з тымі грамадзянамі, якія былі пабіты і затрыманы міліцыяй 26 красавіка, а таксама сваё здзіўленне, чаму тады не змаглі дапусціць праход калон людзей па праспектце Скарыны, як гэта адбылося 1 Мая. М. Статкевіч выступіў з ідэяй стварэння кааліцыйнага ўрада, з тым каб дапамагчы кіраўніцтву краіны вывесці эканоміку краіны з крызісу, даручыўшы гэта спецыялістам, а не палітыкам. Абураліся станам свайго жыцця і прадстаўнікі адукацыі, культуры...

У прынятай рэзалюцыі адзначалася, што людзі перасталі верыць пустым абяцанкам, чакаць лепшага і прапанавалі Прэзідэнту і парламенту прыняць меры па аднаўленню эфектыўнай работы прамысловасці, транспарту, сувязі. Гэтым намаганням павінна садзейнічаць інтэграцыя з усімі краінамі СНД, і ў першую чаргу з Расіяй. «Толькі разам мы зможам забяспечыць дастойнае жыццё», — так заканчвалася рэзалюцыя мітынгу.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ і Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**




## АНГЛІЙСКІЯ ЧЫТАЧЫ ПАЗНАЁМЯЦЦА З АЛЯКСАНДРАМ ЛУКАШЭНКАМ ЯК З ПАЛІТЫКАМ І ЧАЛАВЕКАМ

**Беларусы — самы вялікі па свайму менталітэту народ на постсавецкай прасторы, народ высокацывілізаваны і адукаваны. Так адказаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на пытанне карэспандэнта англійскай газеты «Файнэншл таймс» Крысціны Фрыланд, якое датычыць ацэнкі кіраўніком беларускай дзяржавы статусу беларусаў наогул. Інтэрв'ю з Аляксандрам Лукашэнкам адбылося 30 красавіка ў рэзідэнцыі Прэзідэнта нашай рэспублікі.**

Англійскую журналістку цікавіла ацэнка беларускага Прэзідэнта, які стаў адным з ініцыятараў інтэграцыйных працэсаў у рамках СНД, цяперашняга жыцця рэспублік былога Саюза. Выказваючы свой пункт гледжання, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што ў часы існавання Савецкага Саюза народ адчуваў вялікую ўпэўненасць у заўтрашнім дні. Праўда, на яго думку, цяпер у людзей паявілася больш магчымасцей праявіць сябе, знайсці найлепшае прымяненне сваім сілам і магчымасцям.

Вялікая ўвага ў час гутаркі была ўдзелена беларуска-расійскім адносінам і палітыцы нашай рэспублікі ў адносінах да суседніх дзяржаў. Аляксандр Лукашэнка ў чарговы раз падкрэсліў, што з падпісаннем прэзідэнтамі Беларусі і Расіі Дагавора аб утварэнні Супольніцтва ніякага парушэння суверэнітэту нашай рэспублікі не адбудзецца. Паводле яго слоў, Беларусь і ў далейшым будзе весці самастойную ўнутраную і знешнюю палітыку. А аб некаторых змяненнях у выбары прыярытэтаў у галіне эканомікі, падкрэсліў Прэзідэнт, сведчыць статыстыка. Калі ў часы існавання СССР тавараабарот нашай рэспублікі з Расійскай Федэрацыяй складаў 85 працэнтаў, а з усім астатнім светам толькі 15, то цяпер гэтыя паказчыкі абсалютна роўныя.

Маючыя адбыцца ў Расіі прэзідэнцкія выбары, на думку Аляксандра Лукашэнкі, ніякім чынам не адаб'юцца на ўзаемаадносінах паміж брацкімі дзяржавамі. Прэзідэнт лічыць, што хто б ні стаў кіраўніком суседняй краіны, ён не будзе імкнуцца адштурхнуць Беларусь. Што ж датычыць прагнозаў наконт магчымай кандыдатуры будучага прэзідэнта Расіі, то Аляксандр Лукашэнка сказаў: «Ім стане расійскі грамадзянін, выбраны народам гэтай краіны». Але хто б ні прыйшоў да ўлады ў Расіі, ён, на думку беларускага Прэзідэнта, будзе вымушаны лічыцца з усімі працэсамі, якія адбываюцца ў сусветным супольніцтве.

Не абышлі субяседнікі ўвагай і пытанне, якое датычыць расшырэння НАТО на Усход. Кіраўнік Беларусі выказаў пункт гледжання абсалютнай большасці насельніцтва нашай рэспублікі: Паўночнаатлантычнаму блоку няма чаго расшыраць свае граніцы ва ўсходнім напрамку. І гэта, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, зусім абгрунтавана. З аднаго боку, у нашай памяці надоўга застануцца вынікі Вялікай Айчыннай вайны, а з другога, беручы пад увагу, што Варшаўскага Дагавора, які процістаяў раней НАТО, ужо не існуе, незразумела, супраць каго будуць накіраваны натаўскія ракеты. Што ж датычыць абавязацельстваў Беларусі па вывазу стратэгічнага і тактычнага ўзбраення, то, як сказаў беларускі Прэзідэнт, усе яны будуць выкананы. З 81 ядзернай ракеты, якія размяшчаліся некалі ў Беларусі, засталося толькі 18. І ўсе яны будуць выведзены да канца бягучага года. Пры гэтым было адзначана, што наша рэспубліка разбройваецца за кошт уласных сродкаў.

Апошняе пытанне англійскай журналісткі датычала гістарычных асоб, якія з'яўляюцца арыенцірамі для беларускага Прэзідэнта. Як аказалася, фігурай нумар адзін для Аляксандра Лукашэнкі з'яўляецца Маргарэт Тэтчэр — палітык, які, паводле яго слоў, асабліва ў галіне прыватызацыі можа служыць прыкладам для многіх. І гэта нягледзячы на тое, што кіраўнік нашай дзяржавы не з'яўляецца прыхільнікам прадастаўлення жанчынам высокіх дзяржаўных пасад. Праўда, ён лічыць, што прадстаўнікоў слабай палавіны чалавецтва ў органах улады павінна быць многа. Рэформы Рузвельта і дэ Голя, праводзімыя імі ў адпаведныя перыяды часу, Аляксандр Рыгоравіч лічыць таксама пазітыўнымі прыкладамі для сваёй дзейнасці. Што датычыць кіраўнікоў рэспублік былога СССР, то беларускаму Прэзідэнту найбольш сімпатычны Пётр Машэраў.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь»**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 17, арт. 179) наступныя змяненні і дапаўненні:

1. У артыкуле 3 пасля слоў «Рэспублікі Беларусь як» дапоўніць словам «унітарнай».

2. У частцы другой артыкула 5 пасля слоў «на аснове» дапоўніць словам «свабоднага».

3. У артыкуле 11:

частку трэцюю выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Прапанова аб зняцці Прэзідэнта падлягае абавязковаму разгляду Канстытуцыйным Судом або спецыяльнай камісіяй Вярхоўнага Савета ў залежнасці ад акалічнасцей, што паслужылі падставай для разгляду пытання аб зняцці Прэзідэнта»;

частку чацвёртую выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Заключэнне аб парушэнні Прэзідэнтам Канстытуцыі даецца Канстытуцыйным Судом, аб учыненні злачынства — спецыяльнай камісіяй Вярхоўнага Савета. З моманту вынясення заключэння Канстытуцыйнага Суда аб парушэнні Канстытуцыі або заключэння спецыяльнай камісіі аб учыненні злачынства Прэзідэнт не можа выконваць свае абавязкі да вынясення Вярхоўным Саветам адпаведнага рашэння»;

частку шостую выключыць.

4. У артыкуле 12:

другі сказ часткі другой выключыць;

часткі трэцюю і пятую выключыць;

першы сказ часткі чацвёртай выключыць.

5. Частку другую артыкула 14 дапоўніць наступным сказам: «Пры гэтым выбары Прэзідэнта павінны быць праведзены не раней чым праз 30 дзён і не пазней чым праз 70 дзён з дня адкрыцця вакансіі».

6. У абзацы першым артыкула 17 слова «выключнай» выключыць.

7. Пункт 4 артыкула 18 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«4) уносіць у Вярхоўны Савет пры наяўнасці прадугледжаных законам падстаў прапановы аб вызваленні ад пасады Старшыні Канстытуцыйнага Суда, Старшыні Вярхоўнага Суда, Старшыні Вышэйшага Гаспадарчага Суда, Старшыні Праўлення Нацыянальнага банка».

8. Артыкул 20 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 20. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь:

1) штогод прадстаўляе Вярхоўнаму Савету даклад аб становішчы дзяржавы;

2) па ўласнай ініцыятыве або па прапанове Вярхоўнага Савета інфармуе Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь аб рэалізацыі ўнутранай і знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь;

3) паведамляе Вярхоўнаму Савету аб праграме дзейнасці Кабінета Міністраў».

9. Другі сказ часткі другой артыкула 24 выкласці ў наступнай рэдакцыі: «Савет Бяспекі пры ўвядзенні надзвычайнага становішча на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь забяспечвае неабходныя меры па стабілізацыі становішча або адбіццю ваеннай агрэсіі, ажыццяўляе іншыя функцыі ў адпаведнасці з законам».

10. У артыкуле 28:

абзац другі пасля слоў «абавязацельстваў Рэспублікі Беларусь» дапоўніць словамі «Канстытуцыі і»;

у абзацы трэцім словы «любога дзяржаўнага органа» выключыць.

11. Частку другую артыкула 31 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Кабінет Міністраў ажыццяўляе сваю дзейнасць у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь».

12. У артыкуле 32:

у частцы першай словы «у межах каштарыса расходаў на гэтыя мэты, зацверджанага Вярхоўным Саветам у дзяржаўным бюджэце» выключыць;

у частцы пятай словы «назначаюцца на пасады па ўзгадненню з Прэзідэнтам і складаюць свае паўнамоцтвы перад нававыбраным Прэзідэнтам» выключыць.

13. Частку трэцюю артыкула 38 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Законамі Рэспублікі Беларусь для Прэзідэнта могуць устанаўлівацца іншыя прававыя і сацыяльныя гарантыі».

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА**

*18 красавіка 1996 г.*
*г. Мінск.*
*№ 236-XIII*

## РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 113рп*

**Аб аказанні фінансавай дапамогі гродзенскаму вытворчаму аб'яднанню «Хімвалакно»**

Мінфіну:

выдзеліць з рэзервовага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь гродзенскаму вытворчаму аб'яднанню «Хімвалакно» для рэалізацыі праекта тэхнічнага пераўзбраення магутнасцей па вытворчасці поліаміду-6 і высокатрывалых ніцей для корднай тканіны і тэхнічных вырабаў пазыку ў памеры 5 млрд. рублёў з вяртаннем яе да 30 сакавіка 1997 г.;

заключыць з указаным аб'яднаннем дагавор аб умовах выдачы і вяртання гэтай пазыкі.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*26 красавіка 1996 г., г. Мінск.*

## РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 114рп*

**Аб правядзенні V Міжнароднага кінафестывалю славянскіх і праваслаўных народаў «Залаты віцязь»**

1. Прыняць прапанову Міністэрства культуры аб правядзенні ў г. Мінску ў перыяд з 24 мая па 3 чэрвеня 1996 г. V Міжнароднага кінафестывалю славянскіх і праваслаўных народаў «Залаты віцязь».

2. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь зацвердзіць састаў арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенню V Міжнароднага кінафестывалю славянскіх і праваслаўных народаў «Залаты віцязь».

3. Міністэрству культуры, Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі сумесна з Кіраўніцтвам справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аказаць садзейнічанне арганізацыйнаму камітэту па падрыхтоўцы і правядзенню V Міжнароднага кінафестывалю славянскіх і праваслаўных народаў «Залаты віцязь».

4. Прыняць да ведама, што фінансаванне мерапрыемстваў па правядзенню V Міжнароднага кінафестывалю славянскіх і праваслаўных народаў «Залаты віцязь» ажыццяўляецца за кошт кінацэнтра «Рускі фільм» (Расійская Федэрацыя) і дабрачынных узносаў.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*29 красавіка 1996 г., г. Мінск.*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 156*

**Аб устанаўленні ў Рэспубліцы Беларусь свята — Дня друку**

Устанавіць у Рэспубліцы Беларусь свята — Дзень друку і штогод адзначаць яго 5 мая.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*2 мая 1996 г., г. Мінск.*

*Павел ГЛОБА:*

## «Камета Хіякутаке-2» 1 мая максімальна наблізілася да сонца. Гэта можа прадвяшчаць бяду...»

Днямі Мінск зноў наведаў вядомы ў Расіі астролаг Павел Глоба, які даў прэс-канферэнцыю ў нацыянальным прэс-цэнтры на вельмі актуальную цяпер тэму «Будучыня Расіі і Беларусі». Але прэс-канферэнцыя — не адзіная мэта прыезду астролага ў Беларусь. Тут ён адкрывае школу астролагаў. І хаця гэта аказалася даволі складаннай справай, Павел Глоба правёў ужо першыя заняткі з навучэнцамі. Так што, як бачыце, хаця сучасныя слоўнікі адназначна трактуюць астралогію як ілжывае вучэнне аб уплыве нябесных свяцілаў на зямныя падзеі і жыццё людзей, грамадзяне праяўляюць да яе вялікую цікавасць. Як бы там ні было, ілжывая гэта навука ці не ілжывая, але бясспрэчна, што ўсе мы — дзеці космасу, а ў ім усё ўзаемазвязанае і ўзаемазалежнае.

### КАНЦЭПЦЫЯ

— Сваю задачу як астролаг я бачу ў тым, каб вызначыць перспектывы развіцця тых падзей, якія верагодней за ўсё павінны адбыцца. Астралогія — гэта дыягностыка лёсу. Астролаг мае права папярэджваць, калі штосьці небудзь можна змяніць. А ў іншых выпадках ён не павінен браць на сябе такую адказнасць. Згодна з этыкай астролаг не мае права выносіць прысуд людзям сваім прагнозам. Ён мае права перасцерагчы, папярэдзіць. Дарэчы, я лічу, што апошняе слова застаецца за тымі людзьмі, якія кіруюць дзяржавамі, за самімі грамадзянамі.

### РАСІЯ — БЕЛАРУСЬ

— Як вы ведаеце, старажытным астролагам удавалася і ў дагістарычныя часы прагназіраваць многія падзеі нашага часу. Карыстаючыся гэтымі матэрыяламі, а таксама ўласнымі распрацоўкамі, я зрабіў выснову, што 1996 год для Расіі з'яўляецца падобным да 1613-га. Тады ў Расіі адбываліся выбары Земскім саборам цара Міхаіла Фёдаравіча, была заснавана дынастыя Раманавых... Сёлета ў Расіі павінны адбыцца выбары прэзідэнта. Зоркі кажуць, што ў сувязі з гэтым будзе зменена палітыка Расіі — прапанавана зусім новая праграма дзеянняў, якую ў далейшым возьме за аснову ўся Садружнасць. Таму я вырашыў, што гэты год вельмі важны, пераломны для Расіі, а таксама і Беларусі.

Падзеі, якія адбудуцца, ледзьледзь акрэсліваюцца з туманнай зорнай далечы. Тое, што яны будуць развівацца рэзка і непрадказальна, для мяне асабіста як астролага стала відавочным, калі я на ўласныя вочы ўбачыў славутую камету веку Хіякутаке-2. Любая камета з'яўляецца вястункай абсалютна непрадказальных падзей. А гэта — асабліва. Яна наблізілася да Сонца якраз у ноч на першае мая. Такія ночы, як вядома з літаратуры, завуць Вальпургіевымі, іх святкуюць усе ведзьмакі і чарнакніжнікі.

Я далёкі ад містычнай трактоўкі, але нагадаю, што набліжэнне каметы Галея да Зямлі супала з аварыяй на ЧАЭС. Вялікая небяспека для Расіі існуе ў сувязі з гэтым, я лічу, адразу пасля першага мая і да дзевятага ўключна. Што гэта можа быць? Магчыма, аварыя альбо тэрарыстычны акт. Другая пагроза можа рэалізавацца ўжо восеннню гэтага года, паміж 27 верасня і 12 кастрычніка, калі апошнюю пятлю робіць тая ж камета Хіякутаке і адбываюцца два зацьменні. Вось у гэты час, я мяркую, можна чакаць крытычнага павароту падзей з боку Паўночнага Каўказа. Пасля чаго ваенныя дзеянні часова спыняцца, набудуць лакальны характар. Але жорсткая барацьба зноў адновіцца летам 1999 года. Ваенныя дзеянні могуць быць перанесены на тэрыторыю Стаўрапольскага і Краснадарскага краёў.

Што датычыцца будучыні Расіі сумесна з Беларуссю, то можна сказаць, што на працягу двух наступных гадоў будзе пастаўлена пытанне аб далейшай іх інтэграцыі, якая пачалася зняццем мытных абмежаванняў.

У далейшым Расія, Беларусь і Казахстан, да якіх далучацца яшчэ дзве краіны, утвораць ядро Еўразійскага саюза, якому наканавана быць адным з дамінуючых утварэнняў, можна сказаць, звышдзяржавай XXI стагоддзя. Геапалітычнае становішча ў свеце кардынальна зменіцца. І да гэтага Еўразійскага саюза будуць далучацца іншыя краіны Усходняй і Сярэдняй Еўропы.

Лідэрам у Расіі застанецца Барыс Ельцын. Але сітуацыя дазваляе меркаваць, што выбары не закончацца ў чэрвені. Вельмі верагодна, што папярэднічаць канчатковаму вызначэнню прэзідэнта Расіі можа якраз той самы восеньскі крызіс ці катастрофа, пра якія мы ўжо казалі. Такім чынам, гэта будуць самыя дзіўныя выбары. У рэшце рэшт, нават узнікне пытанне: а ці былі яны?

Тое, што Ельцын застанецца лідэрам у Расіі, будзе вельмі станоўчым фактам для яе, таму што любы іншы кандыдат, нягледзячы на ўсе свае бліскучыя даныя, можа ў гэты час быць заўчасным. У акружэнні прэзідэнта Расіі адбудуцца кардынальныя змены.

Лідэрам Беларусі застанецца Аляксандр Лукашэнка. Яго чакаюць цяжкія часы — канец гэтага года і пачатак наступнага. Перажыўшы жорсткі крызіс, ён здолее весці актыўную палітыку, атрымае Нобелеўскую прэмію міру.

Небяспеку для дзяржавы ўяўляі і ўяўляюць сепаратысцкія рухі на Захадзе Беларусі. Сёлетнія мітынгі, у якія вылілася палітычнае процістаянне ў беларускім грамадстве, не знойдуць свайго працягу. Бо апазіцыя Прэзідэнту негрунтоўная. Актывізацыя апазіцыйных сіл верагодна к канцу года. Калі Прэзідэнт Лукашэнка своечасова прыме меры, то яго чакае даволі спакойны перыяд.

### АБ ІНШЫХ ЛІДЭРАХ

— Многіх цікавіць лёс лідэра Чачэнскай Рэспублікі Джахара Дудаева. Працуючы над яго гараскопам, магу з упэўненасцю сцвярджаць, што Дудаеў жывы. Бяру на сябе смеласць казаць, што жывы і былы прэзідэнт Грузіі Звіяд Гамсахурдзія. Мяркую, што два гэтыя чалавекі, якія зніклі з палітычнай арэны Паўночнага Каўказа, яшчэ з'явяцца на ёй.

### ПЫТАННІ — АДКАЗЫ

**— Вы сказалі, што Расія і Беларусь звязаны агульнай будучыняй. З гэтага вынікае, што незалежнасць Беларусі скончылася?**

— Прабачце, я не казаў пра незалежнасць. Калі мой прагноз падкрэсліваў, скажам, інтэграцыю Расіі і Беларусі, гэта зусім не гаворыць аб тым, што Беларусь губляе сваю незалежнасць і ўваходзіць у імперыю. Гэта абсалютна не так. У далейшым Еўразійскі саюз будзе трымацца на канфедэратыўных асновах. І цэнтра, адкуль будзе ажыццяўляцца кіраўніцтва, не будзе.

**— Была інфармацыя ў друку, што вы, пан Глоба, хацелі б сустрэцца з Прэзідэнтам Лукашэнкам, каб паведаміць штосьці вельмі важнае. Што?**

— Я паведаміў бы гэта толькі яму асабіста. Але я з ім не сустракаўся.

**— А калі ў Беларусі з'явіцца новы лідэр?**

— Па гараскопу Беларусі новы лідэр яшчэ вельмі малады чалавек. Дай Божа, каб праз пяць гадоў ён «праявіўся»!

**— Раскажыце пра камету Хіякутаке больш падрабязна.**

— Яна была адкрыта ў ноч перад Ражаством. І не з'яўлялася на нашым небасхіле 2 тысячы гадоў. Падобна на тое, што гэта і ёсць Віфлеемская зорка. З ёй будуць звязаны цікавыя падзеі, якія яна сваім з'яўленнем прынясе. Павінны пасля гэтага «праіграцца» прароцтвы евангельскія і апакаліптычныя. На Захадзе ў сувязі з гэтым мусіруюцца чуткі аб канцы свету, а гаворка павінна ісці аб нябачным духоўным адраджэнні, аб выратаванні. Гэта — выратавальная рука, працягнутая чалавецтву.

**— У сваіх прадказаннях вы часта ўзгадваеце імя Немчына, нашага суайчынніка з Полацка. Ён быў астролагам?**

— Так. І не толькі. Ён быў славутым вучоным. Прынамсі, менавіта яму належаць прароцтвы аб трох галінах славянскага дрэва: спачатку яны разыдуцца, тры парасткі, а пасля сальюцца ў адзін. Немчына я часта цытаваў. Гэты чалавек быў вялікім патрыётам, любіў сваю зямлю, многа пісаў пра яе. Менавіта яму належыць працытаванае мною прароцтва аб сваёй радзіме, дзе будзе атручана зямля. Год, дадзены Немчыным, аналагічны 1990-му, калі на Наваполацкім нафтахімічным камбінаце адбылася аварыя.

**— Вы параўналі Немчына з Настрадамусам і сказалі, што наш зямляк — больш значная асоба. Гэта можа звязваць з існаваннем нейкай школы астралогіі ў тагачаснай Беларусі?**

— Безумоўна, існавала школа. Полацкая зямля нарадзіла многіх выдатных людзей: Сімяона Полацкага, адтуль карані чалавека, якога лічылі злым ведзьмаком. Але на самай справе гэта унікальная асоба — Елісей Бамелей. Яго сапраўднае прозвішча Бамелс, быў ён літоўцам, жыў у Полацку, а пасля перайшоў на службу да Івана Грознага. Дзякуючы яму мы маем 12-прамянёвую забудову Масквы. Ён ажыццявіў велізарную работу па аднаўленні і рэканструкцыі сталіцы Расіі. Яго асоба павінна прыцягнуць увагу беларускіх даследчыкаў.

**Таццяна АНТОНАВА.**

## МЗС УКРАІНЫ АБЯЦАЛА АДРЭАГАВАЦЬ НА ДЗЕЯННІ БАЕВІКОЎ УНА-УНСО Ў МІНСКУ

Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 30 красавіка міністр замежных спраў Уладзімір Сянько праінфармаваў Аляксандра Лукашэнку аб прынятых мерах і змесце памятнай запіскі, якая была накіравана ў МЗС Украіны беларускім бокам у сувязі з экстрэмісцкімі дзеяннямі ўкраінскай нацыяналістычнай арганізацыі УНА-УНСО 26 красавіка ў Мінску.

У запісцы, у прыватнасці, Уладзімір Сянько паведаміў, што «Прыцягненне да праванацыяналістычнай маніфестацыі баевікоў Дудаева, найбольш ваяўніча настроеных членаў нацыяналістычнай, экстрэмісцкай арганізацыі Украіны УНА-УНСО сведчыць аб тым, што задача маніфестацыі заключалася ва ўзрыве насільным спосабам існуючых у Беларусі спакою і міру, перашкодзіць працэсу рэформаў, аказаць арганізаванае супраціўленне законна выбраным органам улады».

Міністр замежных спраў Украіны Г. Удавенка з павагай успрыняў пасланне Уладзіміра Сянько і паведаміў, што ўкраінскі бок неадкладна адрэагуе і прыме адпаведныя меры.

**БЕЛТА.**

## СОНЦА *СЁННЯ*

| | Усход | Заход | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск — | 5.30 | 20.43 | 15.13 |
| Віцебск — | 5.15 | 20.38 | 15.23 |
| Магілёў — | 5.19 | 20.33 | 15.14 |
| Гомель — | 5.20 | 20.26 | 15.06 |
| Гродна — | 5.44 | 20.59 | 15.15 |
| Брэст — | 5.52 | 20.53 | 15.01 |

## МЕСЯЦ

**Поўня 3 мая.**

## ІМЯНІНЫ

**Пр. Фёдара, Аляксандра, Грыгорыя, Анастасія К. Марыі, Антаніны**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, у паўднёва-заходніх і цэнтральных раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродне — 18—20, Брэсце — 19—21, Мінску — 21—23, Магілёве, Віцебску — 22—24, Гомелі — 23—25 градусаў цяпла. У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць, 4 мая ўначы без ападкаў, удзень у заходніх раёнах, а 5-га месцамі па рэспубліцы пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы.

## КАРПАЎ ГАСЦЯВАЎ У МІНСКУ

З 29 красавіка па 1 мая ў Мінску гасцяваў лідэр сусветных шахмат, чэмпіён свету па версіі ФІДЕ Анатоль Карпаў. Праграма візіту аказалася даволі насычанай. У першы дзень ён сустрэўся з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. Назаўтра, пасля сустрэчы з прэм'ер-міністрам Беларусі Міхаілам Чыгіром, Анатоль Яўгенавіч прыняў удзел у шахматным фестывалі, які быў прымеркаваны да 10-й гадавіны аварыі на ЧАЭС.

У заключны дзень свайго знаходжання Карпаў сустрэўся са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёнам Шарэцкім. Адтуль яго шлях ляжаў прама ў беларускае прадстаўніцтва швейцарскай фірмы «Zepter». Яе генеральны дырэктар спадар Біджоўскі напачатку азнаёміў чэмпіёна з вартасцямі універсальнага посуду, які заваёўвае ў свеце ўсё большую папулярнасць, а таксама абмаляваў перспектывы развіцця сваёй фірмы. Дарэчы, па нацыянальнасці Біджоўскі — югаслаў, а там, як, вядома, шахматы ў пашане. А значыць, «Zepter» і шахматы маюць шмат агульнага. Не выпадкова, што для дзяцей, пацярпеўшых ад чарнобыльскай аварыі, фірмай было закуплена ў Рызе 500 камплектаў шахмат, кожны з якіх змяшчаецца ў арыгінальнай шахматнай ладдзі. Кошт такіх падарункаў склаў 2400 долараў ЗША.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**



# ЗДОЛЬНАСЦЬ РЭАЛІЗАВАЦЬ СВАЮ ПРАДУКЦЫЮ ВЫХОДЗІЦЬ НА ПЕРШЫ ПЛАН

### Нататкі з пашыранай калегіі Кабінета Міністраў

Калегія была прысвечана вынікам першага квартала, а таму з асноўным дакладам па гэтай тэме выступіў Георгій Бадзей, міністр эканомікі. Ён канстатаваў тыя вельмі жаданыя, але пакуль, на жаль, нешматлікія станоўчыя зрухі. Назавём іх.

Запаволіўся эканамічны спад і адзначаны штомесячны прырост валавога ўнутранага прадукту. Упершыню за апошнія гады зарэгістраваны рост прадукцыйнасці працы ў прамысловасці — 6,9 працэнта ў параўнанні з мінулым годам. Прыпынілася зніжэнне рэнтабельнасці. У лютым яе паказчык быў 8,7 працэнта, што ў 2,7 раза вышэй, чым у снежні. Узровень інфляцыі, па словах міністра, утрымліваўся ў межах разліковых параметраў.

Гэтыя і некаторыя іншыя станоўчыя моманты дазволілі Г. Бадзею зрабіць выснову: у першым квартале сфарміравана неабходная база для выканання прагнозных заданняў на ўвесь бягучы год, вызначаных указам Прэзідэнта.

На гэтым станоўчая частка даклада і ўвогуле ўсёй размовы на калегіі скончылася. Далей пайшоў жорсткі і малапрыемны для асобных прысутных, напрыклад, старшыні Мінскага аблвыканкома Пятра Пётуха, «разбор палётаў». Крызіс па-ранейшаму перажываюць большасць прадпрыемстваў Беларусі. У асабліва вострай форме ён назіраўся ў лёгкай і паліўна-энергетычнай прамысловасці, у будаўніцтве, аграрным сектары. Даволі шматлікая група прадпрыемстваў знаходзіцца ля рысы банкруцтва і ніяк не здолее ажывіць сваю гаспадарчую дзейнасць. Прычым гэта група аўтсайдэраў папаўняецца новымі членамі і зараз налічвае больш як 440 суб'ектаў гаспадарання.

Не лепшым чынам ідуць справы і ў сельскай гаспадарцы. За разглядаемы перыяд знізіліся надоі і прывагі ў грамадскай жывёлагадоўлі. Малака ад каровы атрымана менш на 38, а ў гаспадарках Мінскай вобласці аж на 60 кілаграмаў.

Апошняя лічба выклікала ў Міхаіла Чыгіра з'едлівае пытанне да кіраўніка сталічнай вобласці П. Пётуха: маўляў, растлумачце, як гэта вы дапрацаваліся, што пачалі надойваць малака менш за Магілёўскую вобласць? Увогуле, стрыманая, глухая нездаволенасць членаў калегіі Кабінета Міністраў справамі ў Мінскай вобласці адчувалася на працягу ўсяго пасяджэння. Час ад часу яна прарывалася кароткімі крытычнымі рэплікамі М. Чыгіра, сярод якіх паказальнай з'яўляецца знішчальная заўвага аб тым, што вобласць коціцца невядома куды.

І трэба сказаць, П. Пётуху па вялікаму рахунку не было чым «крыць». Яго запэўніванні аб прыняцці мераў, здаецца, не вельмі браліся ў разлік членамі калегіі. Асабліва гэта праявілася ў час абмеркавання сітуацыі на Барысаўскай фабрыцы піяніна, дзе ў выніку буйных пралікаў былога дырэктара адбылося вялікае затаварванне асноўным яе экспартным вырабам. І гэта пры тым, што барысаўскае піяніна самае таннае на сусветным рынку пасля кітайскага.

Дарэчы, цяжкасці з рэалізацыяй выраблёнай прадукцыі ў першым квартале набылі маштабы нацыянальнай праблемы. У Брэсцкай вобласці прадпрыемствы лёгкай прамысловасці не могуць збыць большасць сваіх вырабаў, вымушаны працаваць на склад. Не на ўсю прадукцыю знаходзяць там спажыўцоў і вытворцы мясных і малочных вырабаў.

Праблема рэалізацыі паўстала сёння ва ўсіх абласцях. У Гомельскай з цяжкасцю прадаюцца нафтапрадукты. Мазутным палівам ужо запоўнены ўсе ёмістасці. Усяго на 30 працэнтаў узраслі рэшткі гатовай прадукцыі ў Беларусі. На 1 красавіка на складах прамысловых прадпрыемстваў ляжала разнастайных вырабаў на 10 трыльёнаў рублёў. Не ідзе рэалізацыя — няма зарплаты, адлічэнняў у бюджэт.

На думку Міхаіла Лаўрыновіча, кіраўніка Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі, гэта вельмі заганная практыка — працаваць на склад. Істотнага пералому сітуацыі, на яго погляд, не будзе, калі мы самым сур'ёзным чынам не зоймемся паляпшэннем якасці прадукцыі. Тут патрэбна адпаведная доўгатэрміновая нацыянальная праграма.

Але, відаць, значная колькасць беларускіх прадпрыемстваў жывуць яшчэ старымі ўяўленнямі аб мэтах вытворчасці, не шукаюць рынкаў збыту вырабаў, шляхоў зніжэння сабекошту, павышэння якасці. А свой фінансавы стан спрабуюць палепшыць за кошт павышэння цаны на сваю прадукцыю, што нярэдка даходзіць да абсурду.

У сувязі з гэтым Міхаіл Чыгір расказаў сумную гісторыю, калі адзін наш завод на помпы для веласіпедаў Мінскага мотавелазавода ўстанавіў цану ўдвая вышэйшую за нямецкія. Натуральна, была выбрана прадукцыя Германіі.

Пра наша няўменне гандляваць, адэкватна рэагаваць на змены кан'юнктуры сведчыць і факт значнага зніжэння аб'ёмаў у першым квартале экспарту калійных угнаенняў, трактароў, грузавых аўтамабіляў, тэлевізараў, матацыклаў, веласіпедаў і іншай прадукцыі. У той жа час па многіх пазіцыях павялічыўся імпарт. У выніку падвоілася адмоўнае сальда гандлёвага балансу і зараз складае 489 мільёнаў долараў.

Імпарт, канстатавалася на калегіі, асабліва моцна пацясніў на айчынным рынку нашу лікёра-гарэлачную прадукцыю. У першым квартале адпаведныя прадпрыемствы скарацілі аб'ёмы яе вытворчасці на трэць. У той жа час імпарцёры ўвезлі больш таннай гарэлкі на Беларусь — прыкладна палову гадавой патрэбы насельніцтва Беларусі.

Канкурэнтаздольны гарэлачны імпарт нанёс магутны ўдар па і без гэтага кволаму бюджэту. Ён недалічыўся многіх мільярдаў рублёў. Склады беларускіх вытворцаў завалены нераспрададзенымі дзесяткамі тысяч бутэлек.

Сітуацыю з панаваннем імпартнай гарэлкі на беларускім рынку, якая часта бывае дрэннай якасці, Міхаіл Чыгір назваў «вялікім праколам» і рэзка крытыкаваў за гэта вінаватых.

Міхаіл Марыніч, міністр знешніх эканамічных сувязей, заўважыў, што адной з прычын скарачэння экспарту з'яўляецца скрытая і ўвозімая інфляцыя пры «стаячым» курсе беларускага рубля адносна долара, якая адмоўна праяўляецца пры набыцці матэрыялаў, сыравіны, камплектуючых. І ён прывёў такі прыклад. Мінскі электратэхнічны завод імя Казлова выйграў у канцы 94-га — пачатку 95 года міжнародны тэндэр на замежную пастаўку 1000 трансфарматараў. Спачатку гэта быў вельмі выгадны заказ, але ў канцы мінулага года ён стаў заводу прыносіць страты, і яго кіраўніцтва было вымушана сёлета адмовіцца ад удзелу ў тэндэры. І такіх прыкладаў шмат па рэспубліцы.

Перашкаджае нам канкурыраваць з замежнымі вытворцамі вялікая затратнасць нашай эканомікі. Мы выкарыстоўваем у паўтара раза больш рэсурсаў на выпуск аналагічнага вырабу, чым у развітых краінах. А валавога прадукту пры гэтым на душу насельніцтва атрымліваем менш у 10—12 разоў. Такім чынам, прадукцыйнасць нашай эканомікі ў 15 разоў меншая, чым на Захадзе.

Многія жыхары Беларусі звязваюць паляпшэнне свайго матэрыяльнага становішча з заключэннем дагавора аб Супольнасці з Расіяй. Як вынікае з даклада Г. Бадзея, у часткі яго рэалізацыі ўжо ў чэрвені мяркуецца завяршыць падрыхтоўку прапаноў па сінхранізацыі этапаў, тэрмінаў і глыбіні праводзімых рэформаў, пераліку парадку ажыццяўлення ў гэты перыяд сумесных праграм у сацыяльнай і эканамічнай сферах, прапаноў па фарміраванню адзіных стандартаў, эталонаў і метрычных сістэм, плана заканадаўчых работ.

На ліпень намечана распрацоўка праектаў агульнай транспартнай сістэмы, уніфікацыі грашова-крэдытных і бюджэтных сістэм з мэтай стварэння ўмоў для ўвядзення агульнай валюты.

Пачынаючы са жніўня і да канца года трэба будзе завяршыць падрыхтоўку рашэнняў аб стварэнні аб'яднанай энергасістэмы, па фарміраванню агульнай навукова-тэхналагічнай і інфармацыйнай прасторы і шэрага іншых дакументаў.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## ВІНШАВАННІ ЖУРНАЛІСТАМ

Старшыня Дзяржкамітэта па друку распаўсюдзіў па каналах БЕЛТА сардэчныя віншаванні журналістам са святамі — Сусветным днём свабоды друку і надыходзячым прафесіянальным святам — Днём друку.

Ваша імкненне паспрыяць умацаванню прынцыпаў прававой дзяржавы, падтрымаць і сцвердзіць дэмакратычныя працэсы на Беларусі заслугоўвае прызнання і павагі, адзначыў Уладзімір Бельскі. Айчынны друк з годнасцю прадстаўляе нашу краіну ў адзінай міжнароднай інфармацыйнай прасторы, знаходзіцца ў заўсёдным пошуку аб'ектыўнага і ўсебаковага адлюстравання разнастайных падзей, што адбываюцца ў няпростым навакольным жыцці.

Усе мы павінны памятаць, што слова журналіста, адначасова пачутае сотнямі тысяч людзей, набывае незвычайную сілу ўздзеяння. Дапамагчы народу Рэспублікі Беларусь хутчэй пераадолець паласу эканамічнага і духоўнага крызісу, аб'яднаць высілкі ўсіх людзей добрай волі — гэта пачэсная і адказная місія ў значнай меры ўскладаецца і на працаўнікоў друкаваных перыядычных выданняў. Уладзімір Бельскі пажадаў журналістам натхнення ў іх нялёгкай штодзённай працы. Няхай дыялог з грамадскасцю будзе плённым і карысным беларускаму народу.

**БЕЛТА.**

## КОШТ ЖЫЛЛЯ ЎЗРАСЦЕ, АЛЕ Ў РАЗУМНЫХ МЕЖАХ

Запусціўшы «пробны шар» па павышэнню платы за жыллё з 1 мая бягучага года і атрымаўшы ў адказ негатыўную рэакцыю прафсаюзаў, Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі рэспублікі перагледзела свае ранейшыя пазіцыі. Сумесна з Камітэтам цэн Міністэрства эканомікі Беларусі Мінжылкамгас распрацаваў новую шкалу росту дзеючых тарыфаў на паслугі, што аказваюцца прадпрыемствамі жыллёва-камунальнай сферы. Так, кошт водазабеспячэння плануецца павялічыць у 2,5 раза замест прапанаваных раней 3,9 раза; каналізацыі — у два разы ўзамен 2,7 раза; а цана на цеплаэнергію для ацяплення і гарачага водазабеспячэння ўзрасце ў 1,4 замест прадугледжваемага павелічэння ў тры разы. Стаўка ж кватэрнай платы стане ў 1,7 раза вышэй, чым цяперашняя.

З улікам новых тарыфаў штомесячная плата за пражыванне сям'і з трох чалавек у 2-пакаёвай кватэры плошчай 30 квадратных метраў у ацяпляльны сезон разам з коштам электразабеспячэння складзе 342.782 рублі. А ў летні перыяд, плата за жыллё будзе каштаваць сям'і 212.372 рублі.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

*ВЫСТАЎКІ*

# «М.М.А.-96» — беларуская аўтамабільная Мекка

**Да нядаўняга часу беларускую сталіцу нельга было аднесці да ліку «запаветных» месцаў, куды сцякаюцца аўтапаломнікі з блізкага і далёкага замежжа. Але жыццё ідзе сваім ходам. Нашы суайчыннікі пачынаюць прывыкаць да таго, што Мінск становіцца горадам выставак, кірмашоў, паступова ператвараецца ў своеасаблівую аўтамабільную Мекку. Цяпер сюды едуць не толькі для таго, каб купіць новыя «Жыгулі» ці прадаць былую ў карыстанні іншамарку, знайсці патрэбныя запчасткі ці рэалізаваць тавар, але і для таго, каб на свае вочы ўбачыць тэхнічныя навінкі. Пераканаўчае сведчанне таму — Мінскі міжнародны аўтасалон «М.М.А.-96», які пачаў сваю работу 30 красавіка ў выставачным комплексе «Мінскэкспа» (прасп. Машэрава, 14).**

Гэта ўжо трэцяе мерапрыемства падобнага роду, якое эксперты па праву называюць падзеяй года ў аўтамабільным жыцці Беларусі. Але, у адрозненне ад двух папярэдніх, на гэты раз яно абяцае стаць на рэдкасць ураджайным на дэбюты, прэзентацыі, сюрпрызы.

Сёлета арганізатарамі салона выступілі: СП «Сего Медыум» (дырэктар Генадзь Лашкоў) пад патранажам Беларускай аўтамабільнай федэрацыі (віцэ-прэзідэнт Павел Васільеў) пры садзейнічанні адміністрацыі выставачнага комплексу «Мінскэкспа».

**Інфармацыя для аматараў статыстыкі: у 1995 годзе «М.М.А.» наведалі каля 25 тысяч чалавек, а ў 1996-м чакаецца звыш 30 тысяч. Колькасць фірмаў-удзельніц сёлета перавысіла 70 супраць мінулагодніх 67. А вось арандуемыя плошчы выраслі ў паўтара раза — з 2000 кв. м да 3500 кв. м у закрытых памяшканнях, не лічачы адкрытых пляцовак. Для таго, каб пакрыць дэфіцыт метражу і прадаставіць экспанентам лепшыя ўмовы, па нямецкай тэхналогіі быў узведзены дадатковы павільён плошчай 1500 кв. м. Дарэчы, цалкам гэта праблему ўсё ж не вырашыла, зыходзячы з чаго некаторыя ўдзельнікі прынялі даволі арыгінальныя рашэнні (напрыклад, двух'ярусныя стэнды).**

Пры падрыхтоўцы да «М.М.А.-96» вялікую актыўнасць праявілі аўтамабільныя дылеры і фірмы, якія змагаюцца за права называцца такімі. Былі арганізаваны рэкламныя кампаніі і сустрэчы са спецыялістамі, праведзена тэсціраванне новых мадэляў машын і г. д.

Чым жа радуюць наведвальнікаў «М.М.А.» экспаненты?

Генеральны імпарцёр «Audi AG» у рэспубліцы Беларусь — «Аўтасалон AV», які адным з першых пацвердзіў свой удзел у выстаўцы, паказвае шырокую гаму мадэляў Audi: A8, A6 і A4 у міліцэйскім варыянце. На 200 кв. м арандуемай плошчы ёсць і іншыя «вартыя ўвагі «аўто».

228 «квадратаў» займае экспазіцыя аўтарызаванага дылера «Volvo» ў Рэспубліцы Беларусь — ЗАТ «Белграмадзянаўтатранс». Паводле папярэдніх даных, на суд гледачоў будуць прадстаўлены знаёмыя многім седаны 460 і 940, спартыўныя мадыфікацыі 850R і 850T-5, а таксама хіт сезона — топ-мадэль S40 (якую, дарэчы, не бачылі яшчэ ў многіх гарадах Еўропы, не гаворачы ўжо пра СНД).

Гандлёвая фірма «Еўрааўто», якая з'яўляецца з 1993 года дыстрыб'ютарам японскай кампаніі «Honda», абмежавалася плошчай у 100 кв. м. Аднак гэтага зусім хапіла для дэманстрацыі мадэляў 1996 года — Civic і Accord.

Салідна выглядае экспазіцыя Аўтамабільнага дома «Энергія» — генеральнага прадстаўніцтва канцэрна «Mercedes-Bens AG» у Рэспубліцы Беларусь, якое да канца трымала ў сакрэце свае козыры. Вядома, усіх чакаемых навінак — універсала павышанай умяшчальнасці Viano, фургона Vito, абноўленага флагмана лімузінаў бізнес-класа S600, універсала на базе «кампакта» (С-класа) — публіка, хутчэй за ўсё, не ўбачыць. Але шыкоўны седан E-класа і іншыя выдатныя нямецкія машыны абавязкова будуць. Афіцыйныя дылеры «Adam Opel AG» — фірма «РМ-маркет» і НП-ПФ «Белаўтагаз», нягледзячы на канкурэнцыю, маюць на руках адны і тыя ж козыры — аўтамабіль сярэдняга класа Opel Vectva з кузавамі седан і хэтчбек, побач з якім «прыпаркуюцца» «малышы» Covsa і ўладальнік тытула «Лепшы дызайн 1995 года» — экстравагантная Tigva.

Найноўшы седан Peugeot 406 — гвозд экспазіцыі афіцыйнага імпарцёра французскай кампаніі ЗАТ «Сіфтранс». На стэндзе «раскватараваны» таксама камерцыйны фургон Expent, створаны на базе мінівэна Peugeot 806.

Надзвычай багатую экспазіцыю прадстаўляе афіцыйны дылер кампаніі «Mazda» — фірма «Холпі». Тут і седаны, і хэтчбекі, і купэ папулярных сямействаў 323 і 626, шыкоўны Xedos 9 з чатырма кіруемымі коламі і элегантны Xedons 6, пра якія многія нават не чулі.

«Ударным» стаў і стэнд афіцыйнага дылера «Volkswagen AG» у Рэспубліцы Беларусь — Брокерскага дома «Атлант-М». Тут і вытанчаны седан Polo Classic, і найноўшы мінівэн Sharan, якім у нас прадказваюць камерцыйны поспех і вялікую будучыню.

**Наогул, навінак усіх у адным аглядзе не пералічыць, ды і няўдзячны гэта занятак. Бо, як сцвярджае народная мудрасць, лепш адзін раз убачыць... Так што прыходзьце і глядзіце. «М.М.А.-96» чакае вас!**

**Аляксандр ТРАХАЧОЎ.**

*СЛУЖБА ДАІ*

# МАШЫНА НА ДАРОЗЕ

**У пагодлівы дзянёк, асабліва раніцай, на скрыжаваннях дарог многіх буйных гарадоў выразна бачны шызыя клубы смогу. І прычына гэтых удушлівых дымавых заслон не толькі ў дыме і пыле адходаў вытворчасці волатаў нашай айчыннай індустрыі, але і шматлікіх аўтамашын, ад выхлапных газаў якіх пакутуе ўсё жывое. Дарэчы, па ацэнках спецыялістаў, на іх долю прыпадае да 70 працэнтаў усіх шкодных выкідаў, што трапляюць у атмасферу.**

Як процістаяць гэтаму чаду? Што трэба зрабіць, каб захаваць чысціню паветра? Пра гэтае і многае іншае пастаянна дбаюць спецыялісты, а ў апошні час і аўтамабільная дзяржінспекцыя. У прыватнасці, згодна з рашэннем Мінскага гарвыканкома ад 10 чэрвеня 1993 года, у сталіцы рэспублікі, па аналогіі з ужо дзеючым у Кіеве экалагічным аддзелам ДАІ, было створана аддзяленне дарожна-патрульнай службы па прадухіленню забруджвання транспартнымі сродкамі навакольнага асяроддзя. І ўжо з вясны 1994 года гэта падраздзяленне павяло рашучую барацьбу за навядзенне чысціні на вуліцах, падтрыманне аўтатранспартных сродкаў у належным тэхнічным стане, захаванне зялёных насаджэнняў.

Трэба адзначыць, што ў гэты час Мінскі гарсавет народных дэпутатаў прыняў шэраг рашэнняў, накіраваных на ўзмацненне адміністрацыйнай адказнасці парушальнікаў экалогіі, у падтрымку дзеянняў экалагічнай міліцыі. Дарэчы, у лютым мінулага года было прынята рашэнне аб стварэнні аддзела экалагічнага нагляду ДАІ ў саставе ўпраўлення ўнутраных спраў гарвыканкома і адпаведных падраздзяленняў у райаддзелах міліцыі. Аналагічныя структурныя фарміраванні ствараюцца ў Магілёве, Гомелі і іншых буйных гарадах рэспублікі.

Гэтыя меры далі адпаведныя вынікі. Толькі летась у сталіцы пры непасрэдным удзеле аддзела экалагічнага нагляду ДАІ было прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці за псаванне прыдарожных насаджэнняў 6215 вадзіцеляў, за забруджванне праезнай часткі сталіцы бытавымі і вытворчымі адходамі аштрафавалі 996 вадзіцеляў, 1610 вадзіцеляў былі пакараны за эксплуатацыю аўтамабільных сродкаў, у якіх выяўлена празмернае ўтрыманне забруджвальных рэчываў у выкідах.

Як правіла, найбольш актывізуюцца такія работы ў летні перыяд. Ужо стала традыцыяй у чэрвені месяцы праводзіць аперацыю пад назвай «Чыстае паветра». Мінулагоднія праверкі паказалі, што амаль кожны пяты аўтамабіль эксплуатуецца з павышаным утрыманнем шкодных выкідаў у адпрацаваных газах рухавікоў. Большасць такіх машын належыць кааператывам, малым і сярэднім прадпрыемствам, закрытым акцыянерным таварыствам, а таксама індывідуальным уладальнікам.

Апошнім часам, у сувязі з рэзкім павелічэннем колькасці аўтатраспарту, у Мінску з'явілася адна з вострых праблем вялікіх гарадоў свету — забруджанасць праезнай часткі, захламленне кінутым транспартам тэрыторыі двароў, тратуараў, пад'язных дарог да жылых дамоў. Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт рашэннем № 783 ад 28 снежня мінулага года зацвердзіў Палажэнне «Аб парадку і ўмовах адбуксіроўкі, захоўвання і рэалізацыі транспартных сродкаў, якія загрувашчваюць унутрыдваровыя тэрыторыі, перашкаджаюць уборцы вуліц і дарог». З гэтай мэтай гарвыканкам выдзеліў сродкі для спецыяльных прыстасаванняў, з дапамогай якіх збіраюць і перацягваюць транспарт на штрафную пляцоўку. У час знаходжання затрыманага транспартнага сродку на штрафной пляцоўцы захоўваюцца ўсе дзеючыя правілы і палажэнні кааператыўных гаражоў і стаянак Мінгарвыканкома. Затрыманы транспарт вяртаецца ўладальніку толькі пасля аплаты паслуг па адбуксіроўцы і захоўванню транспартнага сродку з дазволу Дзяржаўтаінспекцыі.

За 2 месяцы супрацоўнікамі Дзяржаўтаінспекцыі было эвакуіравана на штрафныя пляцоўкі больш як 500 аўтамашын, якія перашкаджалі ўборцы тэрыторый, двароў і праезнай часткі дарог.

У працэсе работы многія грамадзяне Мінска звяртаюцца ў аддзел па розных пытаннях, звязаных з экалогіяй горада і транспартам. Так, жыхары дома № 20, які знаходзіцца на скрыжаванні вуліц Філатава—Тухачэўскага, паскардзіліся, што пад'язныя шляхі і тратуары застаўлены аўтамабілямі. Пасля таго, як дзве з іх пабывалі на штрафпляцоўцы, удалося навесці парадак.

Не абмінулі ўвагай і скаргу жыхароў дома па вуліцы Бурдэйнага, што непадалёку ад ЖЭС-83. Яны сігналізавалі аб тым, што вуліцы застаўлены грузавікамі, вадзіцелі якіх не выключаюць рухавікоў. У выніку шмат сажы, бруду. І тут навялі парадак.

Цяпер супрацоўнікі аддзела падрыхтавалі і накіравалі ў гарвыканком для вынясення на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прапановы аб устанаўленні новых відаў адміністрацыйнай адказнасці ў сферы бяспекі дарожнага руху, а таксама для аздараўлення навакольнага асяроддзя.

Словам, праблемы экалогіі сёння тычацца ўсіх: і гаспадарнікаў, і проста жыхароў. Бо жывём у адным горадзе, дыхаем адным паветрам. А таму і клопаты аб захаванні яго чысціні павінны праяўляць усе разам і кожны паасобку.

**Мікалай ВАСІЛЬЕЎ,**
**супрацоўнік аддзела экалагічнага нагляду ДАІ.**

## С. ШАРЭЦКІ Ў ГАСЦЯХ У ВЕТЭРАНАЎ

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі наведаў учора Рэспубліканскі інтэрнат ветэранаў вайны і працы.

У шчырай, задушэўнай размове, якая адбылася паміж кіраўніком вышэйшай заканадаўчай улады рэспублікі і славутымі ў недалёкім мінулым людзьмі: удзельнікамі вайны, перадавікамі і наватарамі вытворчасці, былі закрануты самыя вострыя, надзённыя і неардынарныя пытанні жыцця нашага грамадства. Сямён Георгіевіч Шарэцкі, а таксама міністр Вольга Бараніславаўна Даргель, якая прымала ўдзел у сустрэчы, былі некалькі ўражаны тым, што ветэранаў вайны і працы больш цікавяць пытанні ўнутранага жыцця нашай маладой незалежнай дзяржавы, чым, скажам, нейкія асабістыя дробязныя праблемы. Хаця, прынамсі, дробязей у іхнім жыцці няма і быць не можа.

Сустрэча была цёплай і адкрытай.

**Ул. інф.**

*У СВЕЦЕ*

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ЯНДАРБІЕЎ ГАТОВЫ ПАЙСЦІ НА ПЕРАМОВЫ

Пераемнік Дудаева Яндарбіеў у інтэрв'ю ІТАР-ТАСС заявіў аб гатоўнасці да перамоў з Масквой на пэўных умовах. У гутарцы з карэспандэнтам агенцтва ў адным з паселішчаў на поўдні Чачні Яндарбіеў падкрэсліў, што гатовы асабіста сустрэцца з прадстаўніком вышэйшага кіраўніцтва Расіі, калі ён не мае дачынення да арганізацыі замаху на Дудаева. Раней у інтэрв'ю журналістам Яндарбіеў неаднаразова называў у якасці адной з асноўных умоў для пачатку перамоў поўны вывад федэральных войскаў з тэрыторыі Чачні.

### «ПАДАРУНАК» ДА СВЯТА БЫЎ АБЯСШКОДЖАНЫ

Праваахоўныя органы Чачні выявілі і абясшкодзілі першага мая выбуховае ўстройства на адным з рынкаў Грознага. Міністр унутраных спраў рэспублікі Хамід Іналаў паведаміў, што, нягледзячы на рыхтуемыя баевікамі тэракты, праваахоўным органам удаецца трымаць абстаноўку ў Грозным пад кантролем.

### ЖУРНАЛІСТЫКА — АДНА З САМЫХ НЕБЯСПЕЧНЫХ ПРАФЕСІЙ

«Сама меней 20 журналістаў, якія асвятлялі войны ў розных рэгіёнах свету, загінулі за першыя чатыры месяцы гэтага года», — сцвярджае ў дэкларацыі, прысвечанай Дню свабоды друку, Міжнародны інстытут прэсы ў Вене. Журналістыка — адна з самых небяспечных прафесій. Колькасць журналістаў, арыштаваных у мінулым годзе, пераўзышла 180 чалавек.

### ФРАНЦУЗЫ НЕЗАДАВОЛЕНЫ СВАІМ ПРЭЗІДЭНТАМ

Згодна з апытаннем грамадскай думкі, прэзідэнт Францыі Жак Шырак не ўтрымаўся б на сваёй пасадзе, калі б перавыбары адбыліся сёння. 53 працэнты апытаных падтрымалі б саперніка Шырака на апошніх выбарах сацыяліста Жэ-Сена. 2/3 рэспандэнтаў, у тым ліку і многія кансерватыўна настроеныя выбаршчыкі, незадаволены вынікамі першага года кіраўніцтва Шырака. Прэзідэнт Францыі выбіраецца на сямігадовы тэрмін.

### КЛІНТАН МАЕ РЭАЛЬНЫ ШАНЦ БЫЦЬ ПЕРАВЫБРАНЫМ НА ДРУГІ ТЭРМІН

Вынікі новага апытання грамадскай думкі сярод амерыканцаў паказваюць, што на гэты момант папулярнасць прэзідэнта Клінтана намнога вышэй, чым у яго бліжэйшага саперніка ад рэспубліканскай партыі сенатара Боба Доўэла. Зыходзячы з вынікаў апытання, калі б прэзідэнцкія выбары адбыліся сёння, прэзідэнт Клінтан атрымаў бы на 21 працэнт больш, чым лідэр сенацкай большасці.

### СУПРАЦЬ КІТАЯ МОГУЦЬ БЫЦЬ УВЕДЗЕНЫ ГАНДЛЁВЫЯ САНКЦЫІ

Урад Злучаных Штатаў кваліфікуе Кітай як самага злоснага парушальніка правоў інтэлектуальнай уласнасці. У дакладзе кангрэса ЗША адміністрацыя прэзідэнта Клінтана ўказвае, што ў Кітаі не спынена незаконная вытворчасць кампакт-дыскаў і відэакасет камп'ютэрных праграм і іншых відаў амерыканскай індывідуальнасці. Выконваючы абавязкі гандлёвага прадстаўніка ЗША заявіў, што за парушэнне Кітаем амерыкана-кітайскіх пагадненняў супраць яго могуць быць уведзены гандлёвыя санкцыі.

*Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.*

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Жыхар горада Дэлаве, што ў амерыканскім штаце Агайо Крыстафер Дэкер прыгавораны судом да двухдзённага турэмнага зняволення, аштрафаваны на 150 долараў і на два гады пазбаўлены права валодаць сабакам. Такое пакаранне яму вынесена за тое, што ён, з'ехаўшы з дому, пакінуў свайго шчаня-лабрадора на прывязі. Пазбаўлены вады і заблытаўшыся, лабрадор жалосна выў. Усхваляваныя суседзі паведамілі паліцыі, якая і вызваліла няшчаснага лабрадора.

**Асашыэйтэд Прэс.**

*Узброіўшыся кухонным нажом, з'явілася ў бухгалтэрыю башкірскага саўгаса «Новы шлях» рабочая М. Паграseverжаючы зарэзаць усіх, хто знаходзіўся ў памяшканні, яна запатрабавала выдаць ёй зарплату за снежань, адпускныя, дапамогу на дзяцей і іншыя кампенсацыйныя выплаты. Інспектар па кадрах выдала М. 1 мільён 130 тысяч рублёў, пасля чаго жанчына пакінула памяшканне. Заведзена крымінальная справа.*

**ЕАН.**

